# Лабірынт



№20, лістапад 2012

*Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"*

## Алесь Краўцэвіч: «Напалеон у адносінах да ВКЛ быў цынікам».

Сёлета адзначаюцца 200-я ўгодкі ад часу вайны 1812 году. Перад пачаткам расейскай кампаніі Напалеон сустракаўся з Тадэвушам Касьцюшкам, спадзеючыся залучыць яго ў хаўрусьнікі. Чаму два ваенныя геніі не прыйшлі да паразуменьня? Якія пляны ў Напалеона былі адносна Вялікага Княства? І чаму ўрад ВКЛ не выканаў сваіх абяцаньняў, дадзеных французскаму імпэратару? На гэтыя пытаньні адказвае доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч.



***— Алесь, давай пачнем нашую гутарку з тэрміналёгіі. Айчынная вайна 1812 году — такая назва падаецца ў беларускіх падручніках. Але ці была тая вайна сапраўды айчыннай для нашых продкаў?***

— Гэта вельмі важная праблема — канцэпцыя нацыянальнай гісторыі. Вайна 1812 году — таксама частка гэтай канцэпцыі. Галоўная праблема — адкуль мы глядзім на тую ці іншую гістарычную падзею. Айчынная вайна 1812 году — гэта погляд з Масквы. А галоўная задача беларускіх гісторыкаў — кшталтаваць канцэпцыю нацыянальнай гісторыі. З гледзішча беларускай навукі гэта Франка-расейская вайна 1812 году.

***— Напалеон да паходу на Расею захапіў палову Эўропы. Якія ў яго пляны адносна нядаўна ліквідаванага Вялікага Княства Літоўскага?***

— Напалеон у адносінах да ВКЛ быў чалавекам цынічным. Ён халодна выкарыстоўваў гарачыя патрыятычныя парывы нядаўніх грамадзянаў ВКЛ, Каралеўства Польскага. Ён стварыў Варшаўскае герцагства, як аказалася, толькі дзеля таго, каб сабраць польскіх жаўнераў у сваю армію. Пасьля акупацыі Гарадзеншчыны, Меншчыны, Віленшчыны і Беласточчыны ім было створана ВКЛ, быў створаны часовы ўрад на чале з Аляксандрам Сапегам, што выклікала эйфарыю ў вялікай часткі насельніцтва, найперш у шляхты. Урад Сапегі правёў мабілізацыю ў напалеонаўскае войска — сабраў 20 000 жаўнераў пяхоты і кавалерыі замест абяцаных 100 000. Аказалася, што галоўнымі мэтамі Напалеона былі, па-першае, жаўнераў у войска паставіць, а па-другое, забясьпечыць французскую армію харчаваньнем і фуражом. Палымяныя патрыятычныя настроі мясцовага насельніцтва былі выкарыстаныя толькі дзеля гэтага. Ён не зьбіраўся аднаўляць ВКЛ як дзяржаву.

***— Чаму ж ён на чале сваёй гвардыі паставіў ліцьвіна? Ці гэта проста выпадковасьць?***

— Напалеон умеў распазнаць адданасьць. І напалеонаўскай гвардыяй сапраўды камандаваў наш ліцьвін, генэрал Ян Канопка са Слонімшчыны. *Працяг на 17 ст….*

# Найстрашнейшая расстрэльная ноч для беларускай інтэлігенцыі

***Усяго за адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года ў сутарэннях мінскай унутранай турмы НКУС - "амерыканкі", расстралялі каля 100 беларускіх інтэлектуалаў — выбітных літаратараў, навукоўцаў і дзяржаўных дзеячаў.***

***Звычайны генацыд***

Пляменнік аднаго з нявінна забітых — 28-гадовага паэта Валера Маракова — Леанід Маракоў пакінуў прыбытковы бізнэс, жадаючы вярнуць у гісторыю як мага больш сцёртых імёнаў. За 10 гадоў нястомных даследаванняў ён стварыў два дзясяткі кніг, галоўная з якіх — яшчэ не скончаная 10-томная энцыклапедыя **"Рэпрэсаваныя літаратары, навукоўцы, работнікі асветы, грамадскія і культурныя дзеячы Беларусі. 1794-1991"** са звесткамі пра 15 тысяч ахвяраў расійскага самадзяржаўнага, польскага шавіністычнага і савецкага таталітарнага рэжымаў.

У чарговую гадавіну крывавага тэрору пісьменнік запоўніў яшчэ адзін прабел нашай гісторыі, аднавіўшы імёны ўсіх знішчаных у страшную кастрычніцкую ноч 1937-га. Яго новая кніга "Ахвяры і карнікі" пралівае святло на пікавы перыяд сталінскіх рэпрэсій, упершыню прадстаўляючы біяграфіі і паказанні не толькі ахвяр, але і катаў.

— Прамежак са жніўня 1937 па снежань 1938 г. стаў для Беларусі крывавым тунэлем смерці, — кажа Леанід Уладзіміравіч. — За няпоўныя 15 месяцаў расстралялі больш за 10 тысяч чалавек.

Падкрэслю: мэтанакіравана знішчалася эліта беларускай нацыі. Арыштоўвалі кожнага думаючага чалавека. У 1937-м толькі за тры восеньскіх месяцы органы рэпрэсавалі больш за 600 грамадскіх і культурных дзеячаў. Усяго ж супрацоўнікі НКУС расстралялі ці выслалі ў канцлагеры 90% беларускіх літаратараў (ва Украіне - 35-40%, у Расіі не больш за 15%), 100% святароў, без малога усіх дырэктараў заводаў, кожнага трэцяга настаўніка, інжынера ... Рэпрэсіі, якія прыйшлі на змену "беларусізацыі", пад корань выразалі сотні самародкаў. Інтэлектуальны генафонд нацыі, напрацаваны за стагоддзі, у гады сталінізму быў практычна знішчаны! Наша паўсюдная няўпэўненасць, страх, абыякавасць — следства гэтага генацыду.

103 рубцы на сэрцы Беларусі

У Архіве прэзідэнта РФ пісьменнік адшукаў "Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда СССР", у якім ёсць і беларускі раздзел з пералікам асуджаных на расстрэл. Пад ім — дата 15 верасня 1937 г. На смяротным прысудзе асабістыя подпісы Сталіна і Молатава. 103 чалавекі. Амаль усіх іх — літаратараў Алеся Дудара, Ізі Харыка, Янку Нёманскага, Міхася Чарота, Юлія Таўбіна, Платона Галавача, Міхася Зарэцкага, наркама асветы Аляксандра Чарнушэвіча і юстыцыі Максіма Ляўкова, рэктара БДУ Ананія Дзьякава, 2-га сакратара ЦК КП (б) Б Мікалая Дзяніскевіча, студэнта БДУ Саламона Лямперта ... — сталіністы расстраляюць у адну ноч, адсвяткаваўшы такім чынам дзень Ленінскага камсамола і 20-годдзе кастрычніцкага перавароту.



***Паэта Алеся Дудара (на фота — злева), арыштоўвалі 3 разы за 7 гадоў. Любімы вучань Янкі Купалы Валеры Маракоў не збіраўся здавацца чэкістам жывым, але не паспеў. Абодва прызнаныя "сябрамі антысавецкай нацыянал-фашысцкай арганізацыі". Першаму было — 32, другому — 28.*** *(Фота з архіву Л. Маракова).*

### *Ворагі-забойцы*

Калі чытаеш "Ахвяраў і карнікаў", прапускаючы праз сябе тысячы чалавечых лёсаў, усведамляеш праўдзівыя маштабы сталінскага тэрору.

15 верасня 1937 бяда прыйшла ў дом інспектара Белаптекакіравання 34-гадовага Барыса Левіна. Разам з ім чорны варанок назаўжды забраў сястру-студэнтку палітэха і пенсіянера-бацькоў. 7 лютага 1938 арыштаваныя, а праз тыдзень і асуджаныя чацвёра братоў Мінкевічаў — працаўнікоў калгаса "Ленінскі шлях". Малодшаму было 34, старэйшаму — 49 гадоў. З розніцай у год асуджаныя дзяжурная дзяржынскай гасцініцы 39-гадовая Ганна Быкоўская і яе браты 24-гадовы баец пажарнай аховы Станіслаў і 37-гадовы шафёр мясакамбіната Цэзар ...

Самае распаўсюджанае абвінавачанне — "антысавецкая агітацыя і прапаганда".

— "Двойкі" і "тройкі" НКУС судзілі ні ў чым невінаватых людзей за 10-12 хвілін, — расказвае Леанід Маракоў. — Прычым 90 працэнтаў следчых і суддзяў былі дасланыя разбірацца з беларускімі "нацдэмамі" з іншых рэспублік СССР. Многія прыязджалі на пару дзён, зачытвалі некалькі сотняў смяротных прысудаў і знікалі на бязмежных прасторах краіны Саветаў.

Перад судом няшчасных па-зверску катавалі. Так, з аўтара "Беларускай граматыкі для школ" Браніслава Тарашкевіча выбілі "паказанні" на 249 чалавек!

Даследчык, за чыю галаву неасталіністы ўжо прапаноўвалі ў Інтэрнэце 10 тысяч "зялёных", прыводзіць у кнізе паўтараста біяграфій сталінскіх катаў і сотні сведчанняў пацярпелых — чытанне не для людзей са слабымі нервамі.

*"...Стенографистка Жуковская показала, что многие следователи, являясь инструкторами по бою, ходили по кабинетам и избивали несознавшихся арестованных. Когда арестованные теряли сознание после избиения, Быковский колол их иголкой в шею. Антону Балицкому (нарком просвещения БССР — К. Л. ) дал прессом в лицо. Арестованного литератора З. ставил ногами вверх к окну и избивал… ".*

*"...Неоднократно с 4 до 6 утра меня избивала "бригада". Собирались следователи Морев, Виньковецкий, Годин Крупеньков… "Бригада" била, одновременно применяя различные приемы: один рвал волосы, другой давил на горло, третий оплевывал лицо, остальные били кулаками и сапогами по голове, груди, животу, ногам. Это бригада играла в "футбол", помещая меня в центре, били по очереди сапогами — кто куда попадет…"*

(З ліста М. Стэрніна сакратару ЦК КП (б) Б П. Панамарэнку) .

Класік нашай літаратуры Кузьма Чорны, які амаль восем месяцаў правёў за кратамі, успамінаў:

*"У яжоўскай турме ў Менску ўвосень 1938 г. мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі зьбітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі".*

### *Каб памяталі*

Паводле дадзеных розных даследчыкаў, сталінскія апрычнікі рэпрэсавалі ў Беларусі ад 600 тысяч да 1,5 мільёна чалавек. Кожны дзясяты беларус. Кожная трэцяя сям'я!

... Увечары 29-га Леанід Маракоў паставіць свечку ў памяць аб рэпрэсаваных дзедзе Дзмітрыі, бацьку Уладзіміры і дзядзьку Валеры. Запалім свечкі і ўсе мы. Каб не забываць. Каб страшная трагедыя нашых дзядоў, крый Божа, не паўтарылася з нашымі ўнукамі.

**Артыкул:** Кастуся Лашкевіча



*"Абыякавы да мінулага ня мае аніякай інтэлектуальнай перавагі над жывёлай, і таму ёсьць першы кандыдат на маральную, а затым і фізычную сьмерць. Усё адно хто гэта - чалавек ці народ"*

**Уладзімер Караткевіч**

# Забытыя магілы

***Днямі вырашыў паехаць на радзіму пачынальніка беларускай дзіцячай драматургіі, нашаніўца Кандрата Лейкі (1860–1921) у вёску Збочна Слонімскага раёна.***

Вёска знаходзіцца далёка ад майго Слоніма, але бываць там люблю, бо гэтыя прыгожыя мясціны проста захапляюць. Там некалі любіў бываць і Уладзімір Караткевіч з Алегам Лойкам. Маляўнічыя мясціны з казачным Бяздонным возерам, недаследаваным старым гарадзішчам, ціхімі вуліцамі Збочна, дзе і нарадзіўся, гадаваўся і вучыўся ў Азярніцкім вучылішчы Кандрат Лейка.



Недалёка ад гарадзішча вясковец варочаў сена. Падышоў да яго, пазнаёміўся.

— Міхаіл Лейка, — назваў сябе вясковец.

— Можа, вы далёкі сваяк Кандрата Лейкі? — пытаюся.

— Можа і сваяк, не ведаю. Чуў, што быў такі пісьменнік — Кандрат Лейка. А вось што ён напісаў — не чытаў, — апраўдваўся Міхаіл Лейка.

— А ці ведаеце, дзе знаходзіцца магіла маці Кандрата Лейкі?

— Не, не ведаю. У Збочна шмат старых магіл на могілках, пашукайце там, — параіў вясковец.




На гэтым мы развіталіся, і я паціху пайшоў на могілкі. Каля царквы, а яна знаходзіцца на самых могілках, здалёк кінулася ў вочы прыгожая — старая і вельмі дарагая на той час — каваная чыгунная агароджа. Помнік на магіле разбіўся. Падняў з зямлі ўцалелую шыльду і… вачам сваім не паверыў — гэта ж магіла маці Кандрата Лейкі. На ёй прачытаў: “Здесь покоится прах рабы Божей Таклюси Лейко 62 л. 18 января 1881 г. Дорогой матери от любящих детей”.

Па частках неяк злучыў помнік, каб хоць яго сфатаграфаваць. Усё ж ён прастаяў 130 гадоў. Калі памерла маці, Кандрату Лейку быў 21 год. Ён тады працаваў настаўнікам у Косаве. У моцную завіруху на санях Кандрат дабіраўся ў родную вёску. Маці застаў яшчэ жывой, але нічым дапамагчы ёй ужо не змог. Яна вельмі хацела жыць, каб пабачыць, які лёс напаткае яе вучонага сына. А лёс у сына быў трагічны.

Кандрат Лейка прысвяціў сваёй маці некалькі апавяданняў. Ён вельмі любіў сваю матулю і шчыра давяраў ёй, моцна захапляўся яе высокай маральнай чысцінёй і справядлівасцю, яе прыроднымі разумовымі здольнасцямі. У адным з апавяданняў, якое называецца “Таклюся-сухотніца”, Кандрат Лейка стварыў вобраз сваёй маці — простай сялянкі, якая ў апавяданні ўзнімала найважнейшыя праблемныя пытанні таго часу: “Перад Таклюсяю цяпер неразгаданаю загадкаю стаялі тры цікавыя пытанні. Калі паміж людзьмі будзе праўда? Ці дадуць калі-небудзь беднякам зямлі? Калі ўсім людзям дазволена будзе вучыцца і маліцца на сваёй роднай мове?”

**Крыніца:** *Arche.by*

# Ленін даў нам дзяржаўнасьць. Дагнаў і яшчэ раз даў 

Калі беларусамі ўшаноўваецца памяць пра Кастрычніцкую рэвалюцыю, то варта таксама з размахам адзначаць "Сьвята рыжскай дамовы" й "Гадавіну пакту Молатава-Рэбынтропа".



Калі я чую, што беларусы павінны сьвяткаваць дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі хаця б таму, што гэта камуністы падаравалі нам дзяржаўнасьць, то хачу спытацца камуністаў: а ці сьвяткуеце Вы дзень пачатку I сусьветнай вайны, якая падаравала вам шанец правесьці вашу вялікую рэвалюцыю?

У 1917 годзе беларусы дапамаглі Леніну зрабіць у Расейскай імпэрыі рэвалюцыю. Ленін пахваліў нашых суродзічаў і падарыў БССР. “Бярыце хлопцы, даю я вам сваю краіну. Будуйце дзяржаўнасьць, а я буду ўсяляк падтрымліваць вашыя памкненьні”. Беларусы ўзялі. Потым нешта там у іх не атрымлівалася, пачалі яны круціць носам, ну дык Ленін кажа: “наце вам ЛітБел ССР”. Ізноў не ўгадзіў. Потым даў ізноў БССР. Далей было нешта незразумелае, але вядома, што палякі й нехта там яшчэ, карацей нейкія кепскія бальшавікі ці што, у 1921 годзе ў Рызе падзялілі Беларусь на два кавалкі. Праз 18 год нашчадкі Леніна адумаліся, маўляў, а што ж мы нарабілі, і пайшлі зь вінтоўкамі вызваляць Беларусь з-пад польскага панскага ярма ў якое самі ж аддалі ў згаданай Рызе. І ізноў стала Беларусь.

Прыкладна такое ўяўленьне пра адраджэньне беларускай дзяржаўнасьці ў 20 ст. я вынес са школы. Гэтую байку беларусам баілі больш за паўстагодзьдзя й прымусілі многіх паверыць, што дзяржаўнасьць – гэта дар камуністаў, а ўдзел саміх беларусаў у гэтай падзеі быў ускосны.

І сёньня я чытаю словы чалавека, які быццам бы мае дыплём гісторыка й называе сябе прэзыдэнтам Беларусі: “Наш народ никогда не забудет о том, что Великий Октябрь предоставил ему право на самоопределение и обретение государственности, став тем фундаментом, на котором мы построили суверенную Республику Беларусь”.

Хацелася б запытаццаў гэтага гісторыка, а як гэта так атрымалася, што рэвалюцыя адбылася ў 1917 г., а савецкая Беларусь была абвешчана амаль праз два гады пасьля гэтага. Калі ўдалося абвесьціць у 1918 годзе БНР, то што перашкаджала раней бальшавікам, якія валодалі сілай, абвесьціць савецкую Беларусь?

Адказ просты: яны гэтага не толькі не хацелі, не толькі не дапускалі такой думкі, яны ўсяляк супраціўляліся любым крокам беларусаў на самавызначэньне.

Украінская ССР, напрыклад, была абвешчана празь месяц пасьля рэвалюцыі. Літоўскую савецкую рэспубліку бальшавікі прызналі ў лістападзе 1918 г. Ніякай Беларусі, у любой форме, бальшавікі не хацелі й бачыць, яны лічылі яе выдумкай, ілюзіяй, непаразуменьнем. У першыя бальшавіцкія рады беларусаў увогуле не дапускалі. У першых рэзалюцыях Фрунзэ, старшыні менскага савета, не было ані слова не тое, што пра савецкую Беларусь, нават пра аўтаномію Беларусі ў складзе Расеі не было гаворкі.

Пра сваю краіну марылі за тое тысячы беларусаў. Тыя, якія з пачатку стагодзьдзя арганізоўваліся ў гурткі па інтарэсах альбо, як цяпер модна казаць, гета. Але й яны абмяжоўваліся выключна аўтаноміяй у складзе Расеі. Думка пра сваю дзяржаўнасьць была марай, у якую пакуль верылі адзінкі. Нават на І Усебеларускім зьездзе 25 сакавіка 1917 году беларускія дзеячы казалі выключна пра аўтаноміі ў складзе Расеі. Але нават сцэнар аўтаноміі бальшавікам быў недаспадобы. Зьезд яны разагналі, а многіх яго ўдзельнікаў арыштавалі. Расстраляць не пасьпелі, бо ў Менск прыйшлі немцы. Бальшавікі

падчысьцілі дзяржаўныя сэйфы, нашкрэблі 200 чалавек аховы і ў класных вагонах (як і належыць пралетарыям) намеціліся ўцякаць у Смаленск. Менскія дэпоўцы запатрабавалі, каб тыя аддалі нарабаванае беларускае дабро й зброю ды адмовіліся даваць бальшавікам паравоз. У адказ тыя расстралялі начальніка станцыі й некалькі дэпоўцаў і паставалі ўмову Народнаму беларускаму сакратарыяту: не выпусьціце - бабахнем з усіх гармат і кулямётаў па Менску. Беларусы, натуральна, пашкадавалі сталіцу й паравоз далі.

Падчас адсутнасьці бальшавікоў беларусы часу не гублялі. Яны стварылі свае камітэты й арганізацыі. Пачалі выдаваць газэту. Беларускіх рух мацнеў і да канца лета налічваў некалькі дзясяткаў тысяч прыхільнікаў.

Заўважыць гэтага бальшавікі не маглі. Калі раней яны ўспрымалі беларусаў, як кагосьці, хто боўтаецца ў іх пад нагамі, то цяпер яны пачынаюць цягнуць час і абяцаюць аддзяленьне. Ім верыць некалькі нацыянал-камуністаў. Яны едуць ў Петраград і ствараюць Белнацкам пры Народным камісарыяце па справах нацыянальнасьцяў на чале якога стаіць Сталін. Ані Сталін, ані мясьніцоўцы, які прадстаўлялі ў той час уладу бальшавікоў у Беларусі (у Смаленску), нават чуць не хочуць пра нейкі там савецкі беларускі ўрад і Беларусь. Яны бачаць Беларусь выключна як Заходнюю камуну ў складзе Расеі.

Немцы ў Менску таксама не хочуць слухаць пра Беларусь. Але скарыўстаўшыся адсутнасьцю бальшавікоў беларусы абвяшчаюць БНР. Запрацавалі некалькі соцень беларускіх школ і гімназій, музычная школа, пэдагагічны інстытут. Зьявіліся свае выдавецтвы, газэты. У Літве і Ўкраіне запрацавалі прадстаўніцтвы. Бальшавікі называюць ўсё гэта контррэвалюцыяй і буржуазнымі інтрыгамі. Натуральна, ніхто ў Петраградзе прызнаваць БНР не зьбіраецца.

Старшыня ўраду БНР Антон Луцкевіч едзе ў Маскву да прадстаўніка Белнацкаму Жылуновіча й хоча прасіць сустэчу ў Леніна. Мы, маўляў, прызнаем уладу саветаў, а вы прызнайце БНР і мы разам створым кааліцыйны ўрад. Ленін не захацеў сустракацца. "Мы считаем, что белорусы не являются нацией и что те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты. Коммунисты не могут в каком бы то ни было случае принимать участие в этом движении" – піша ў той час будучы бальшавіцкі чыноўнік у Беларусі Кнорын (ягоным імем названая адна са сталічных вуліц). Жылуновіч піша ў друкаваным органе Белнацкаму “Дзяньніцы”, што Сталін і чуць не хочуць па Беларусь, бальшавікі настойваюць на Заходняй камуне.

Так і адбываецца. Беларусь зацьвярджаюць Заходняй вобласьцю. Жылуновіч заклікае беларусаў вяртацца дадому й самім ствараць урад. Пра гэта даведваецца Ленін. 25 сьнежня 1918 году Белнацкам запрашаюць да Сталіна й абяцаюць, што будзе вам Беларусь, пачакайце трошкі.

Калі на сходзе ў Смаленску абвяшчалі, што неўзабае будзе створана БССР, то камуністы зь Віцебску праціваліся, сьвісталі, яны не хацелі і чуць і пра Беларусь. Абвяшчаюць склад вышэйшага партыйнага органа краіны – з 15 чалавек толькі два былі беларусамі. Ключавыя пасады ва ўрадзе атрымалі людзі Мясьнікова, у тым ліку й Кнорын, аўтар незабыўных радкоў пра беларусаў.

1 студзеня абвяшчаецца пра стварэньне Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Але савецкай Беларусьсю давялося цешыцца нядоўга. Праз два тыдні, 16 студзеня 1919, бальшавікі пачалі яе ліквідацыю. Саветы стварылі дзяржаву, каб легалізаваць свае пагромы й зьнішчэнне мовы й культуры, каб ад імя народу арыштоўваць непажаданых палітыкаў.

Кур’ёзам стаў першы Ўсебеларускі зьезд саветаў. Ён, як вярхоўная рада рэспублікі, прыняў канстытуцыю і ў той жа момант прызнаў неабходнай ліквідацыю дзяржаўнасьці. Зьезд прагаласаваў за перадачу беларускіх абласцей Расеі. Віцебскую, Магілёўскую й Смаленскую губерні перадалі РСФСР. 27 лютага абрэзкі Беларусі зьлілі зь Літвой у ЛітБел ССР (ва ўрадзе якой, дарэчы, не было аніводнага беларуса).

Другі раз БССР абвесьцілі 31 ліпеня 1920 году. Новая БССР складалася з шасьці паветаў Менскай губерні. Гэта была мікраскапічная рэспубліка Неўзабаве яе займаюць палякі.

У 1921 годзе на Рыжскай канфэрэнцыі палякі й бальшавікі пачынаюць без удзелу беларусаў дзяліць нашу краіну. Савецкая дэлегацыя прапануе палякам усю Беларусь, а ўзамен

палякі павінны былі б прызнаць Савецкую Ўкраіну. Пілсудзкі на гэта не ідзе. Ён хоча мець буфэр паміж Расеяй і Польшчай. БССР застаецца існаваць у невялікай частцы сваіх этнічных тэрыторый.
Без гэтай заблытанай храналёгіі цяжка зразумець рэальную ролю бальшавікоў у беларускай дзяржаўнасьці. 1917 год, бясспрэчна, быў нагодай для ўзьнікненьня Беларусі. Але праблема ў тым, што ніхто даваць беларусам сваю краіну не зьбіраўся. Супраць гэтага працавала ўся вялізарная чырвоная сыстэма. Толькі самаарганізацыя беларусаў, адважныя палітычныя канцэпцыі й рэальнае іх вырашэньні стала зарукай узьнікненьня Беларусі. Спачатку БНР, а потым і БССР. Гэта каштавала неверагодных высілкаў, нэрваў, сілы волі, духу, а пазьней сьлёз і крыві. Ці ўдалося б беларусам мець сваю дзяржаўнасьць, калі б не некалькі сотняў сьмелых, якія за лічаныя месяцы здолелі паказаць бальшавікам: беларусы ёсьць і ігнараваць гэтага вы ня можаце. Большасьц зь іх зьгіне пазьней у савецкіх лягерах у турмах, частку расстраляюць у Курапатах. Камуністычны тэрор пазбавіў беларусаў эліты, амаль зьнікла пераемнасьць пакаленьняў. Беларусы ў СССР былі фактычна вымушаныя пачынаць з чыстага ліста. І ім ізноў удалося.
Калі сёньня я чую, што беларусы павінны сьвяткаваць дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі хаця б таму, што гэта камуністы падаравалі нам дзяржаўнасьць, то хачу спытацца камуністаў: а ці святкуеце вы дзень пачатку І сусьветнай вайны, якая падаравала ваш шанец правесьці вашу вялікую рэвалюцыю? Куды б зайшлі бальшавікі без сусьветнай вайны можна толькі гадаць. Калі крочыць навязанай камуністамі лёгіцы, то беларусы павінны таксама сьвяткаваць і дзень падпісаньня рыжскіх пагадненьняў. Фактычна БССР захавалася дзякуючы палякам, якія адмовіліся браць ад бальшавікоў усю тэрыторыю прапанаваную камуністамі. Чарговым сьвятам мог бы быць дзень падпісаньня пакту Молатава-Рэбынтропа, на падставе якога бальшавікі занялі Заходнюю Беларусь і ў выніку чаго Беларусь пасьля вайны абʼядналася. У найноўшай гісторыі можна сьвяткаваць пачатак перабудовы, дзякуючы якой СССР пачаў рассыпацца й крызыс даў шанец паняволеным народам абвесьціць сябе незалежнымі дзяржавамі.
Усе гэтыя даты й падзеі ніхто не плянаваў як дабрадзейства для беларусаў. Гэта беларусы, скарыстаўшыся няпэўнымі часамі, войнамі, канфліктамі, крызысамі, змаглі вырваць з зубоў вялікіх братоў, кавалак за кавалкам, сваю дзяржаву. У гэтым нашыя прадзеды не вынаходзілі ровара. Гэта спрадвечнае правіла гісторыі. І ў гэтай гісторыі сваю дзяржаву беларусы здабылі не дзякуючы рэвалюцыі ці бальшавікам, а насуперак ёй, самі, усім ворагам на злосьць.
**Артыкул:** *Дз. Гурневіча.*



## Канферэнцыя: 200-годдзе вайны 1812 года ды аднаўленне ВКЛ

*27 кастрычніка ў Мінску адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная 200-годдзю вайны 1812 года паміж Напалеонам і Расійскай імперыяй ды аднаўленню ВКЛ. Арганізатарам канферэнцыі выступіў грамадскі камітэт "Вялікая Літва – гістарычная памяць Беларусі.*



Як адзначыў старшыня камітэта, мастак Мікола Купава, падчас вайны 1812 года беларускі народ падзяляў каштоўнасці, што несла напалеонаўская армія, і не патрымліваў расійскі дэспатызм. Вось чаму, паводле ягоных

слоў, ў кожнай сядзібе і хаце рыхтавалі святочны стол, каб сустрэць Напалеона – вялікага жаданага госця. “Але вайна рабілася не па беларускім сцэнары, у каторы былі ўнесеныя непрадбачаныя карэктывы, -- падкрэсліў Купава.

Паводле слоў доктара гістарычных навук, прафесара Міхася Гурына, Напалеон не ішоў на ВКЛ, як агрэсар, яго чакалі лідары краіны, у тым ліку Дамінік Радзівіл і Міхал Клеафас Агінскі. “І не так проста было дабіцца ад Напалеона, каб ён дапамог нашым продкам аднавіць незалежнасць і годнасць ВКЛ. Вось чаму армію еўрапейскай кааліцыі вельмі гасцінна сустракалі ў Вільне – былой сталіцы ВКЛ, -- адзначыў навукоўца.



*Міхась Гурын*

Ён звярнуў увагу на тое, што падчас гэтай вайны расійская армія завяршыла рабаванне Нясвіжскага замку і адных толькі ўпрыгожанняў вывезла адтуль на 10 мільёнаў дукатаў. “І гэта пры тым, што сёння за адзін тагачасны дукат можна прыдбаць каляровы тэлевізар, - падкрэсліў Гурын.

Паводле ягоных слоў, вайна 1812 года стала вялікай трагедыяй для беларускага народу, які за 1812-1813 гады ад ваенных дзеянняў, голаду і эпідэмій невядомых хвароб страціў 1 мільён чалавек, у той час як за чатыры гады (1941-1945) Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі – 3 мільёны. На думку гісторыка, “мы павінны быць ўдзячныя еўрапейцам, якія згадзіліся дапамагаць нашым продкам, знайсці магілы гэтых мужных людзей, якія змагаліся за Радзіму, і годна ўшанаваць іх памяць.

На канферэнцыі таксама выступілі доктар гістарычных навук Леанід Лыч (царкоўна-рэлігійная сітуацыя ў Літве-Беларусі напярэдадні і ў час вайны 1812 года), краязнаўца Анатоль Валахановіч (партызанскі рух у Койданаўскім павеце), Сяргей Чыгрын (лёс генерала Яна Канопкі і іншых ваеначальнікаў ВКЛ) і Леанід Лаўрэш (канец 1812 года і 1813 год на Лідчыне).

Мікола Купава паведаміў, што ў планах камітэту “Вялікая Літва – гістарычная памяць Беларусі – святкаванні 175-годдзя з дня нараджэння нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага, 150-годдзя паўстання 1863-1864 гадоў і 500-годдзя перамогі ў Аршанскай бітве 8 верасня 1514 года.

**Артыкул:** *Марата Гаравога*



# Браты Козел-Паклеўскія

Удзельнікі паўстаньня 1863-64 гг. браты Ян і Вікенцій Козел-Паклеўскія былі цесна зьвязаны з Вілейшчынай. Нарадзіліся яны ў маёнтку Сэрвач Вілейскага павета. Калі выбухнула паўстаньне яны тут жа далучыліся да яго, і нават сталі ў кіраўніцтва.




*Браты Козел-Паклеўскія*

Вікенцій, які да гэтага належаў да таемнай пецярбургскай арганізацыі і служыў ваенным інжынерам у Вільні, фарміруе атрад паўстанцаў больш за 200 чалавек. Але супраць іх кінуты вялікія сілы. Каля вёскі Уладыкі Вілейскага павета адбываецца бой ў якім гіне Вікенцій і яшчэ 168 чалавек ( па некаторых зьвестках больш). Адразу яго разам з забітымі паўстанцамі пахавалі ў братэрскай магіле каля гэтай жа вёскі, але пасьля таемна перазахавалі ў роднай Сэрвачы.

Ян, які насіў псеўду Скала, быў адным з паплечнікаў К.Каліноўскага. З восені 1862 года сябра Літоўскага правінцыяльнага камітэта, які рыхтуе паўстаньне на Беларусі і Літве.

З красавіка 1863 года ў Варшаве (у ваенным аддзеле паўстанцкага урада, камендант горада). Пасьля падаўленьня паўстаньня эміграваў у Фран-цыю. Пасьля вяртаньня на Радзіму з 1872 па 1883 знаходзіцца ў ссылцы на тэрыторыі Сярэдняй Азіі.

Магіла паўстанцаў каля Уладык захавалася, скаўты з г. Маладзечна усталявалі там крыж.

Сябры СПА "Волат" калі знаходзяцца у вандроўцы ў тых мясьцінах, заўсёды збочваюць з маршрута, заходзяць да магілы і ушаноўваюць памяць аб героях хвілінай маўчаньня.

**Артыкул:** *vialejka.org*



## Беларускія гісторыкі

# *Адам Нарушэвіч*

(20 кастрычніка 1733, Лагішын — 6 ліпеня 1796, Янаў-Падляшскі), вялікалітоўскі філолаг, гісторык, перакладчык, паэта і пісьменнік.

Скончыў Пінскую езуіцкую школу (1748) і Віленскую езуіцкую акадэмію (1754). Вучыўся ў Ліёне (Францыя), у Італіі і Германіі. Выкладаў лаціну ў Віленскай акадэміі, заняў там кафедру паэтыкі, дзе выкладаў стылістыку і гісторыю літаратуры. Біскуп смаленскі (з 1788), луцкі (з 1799). Валодаў маёнткам Павець каля Пінска. Пахаваны ў Янаве-Падляшскім.



А. Нарушэвіч адным з першых зрабіў пераклад Карнэлія Тацыта на славянскую мову (польскую), яго пераклад да цяперашняга часу лічыцца лепшым у еўрапейскай літаратуры, а пераклады Гарацыя — самымі поўнымі і дасканалымі. Аўтар 7-томнай «Гісторыі Польшчы» (Варшава, 1780-1824), гісторыі Крыма – «Таўрыя» (Варшава, 1781). Гэтыя фундаментальныя працы з'яўляюцца наватарскімі на ўсходнееўрапейскай прасторы — вылучаюцца грунтоўнасцю высноў, дасканалым аналізам крыніц. Заснавальнік ў польскай гістарыяграфіі школы (г.зв. «школы Нарушэвіча»), якая супрацьстаяла школе І. Лялевеля.

Аўтар шматлікіх одаў, ідылій, сатырычных твораў.

**Крыніца:** *Календарыюм // Czasopis № 10/2003*



# Слаўная кветка Случчыны.

### *Пра ачаг беларускага нацыянальнага адраджэння, які зауважыў Янка Купала.*

На пачатку XX стагоддзя, асабліва пасля Лютаўскай рэвалюцыі, на ўскраінах Расійскай імперыі ўзнялася моцная хваля нацыянальнага руху. Паўночна-Заходні край, як тады афіцыйна называлі Беларусь, выключэннем не стаў. У яго межах значную ролю адыграе менавіта Слуцк, дзе з невялікага агеньчыка беларускай справы – культурна-асветніцкага таварыства «Папарараць-кветка» — узнікне сапраўдны ачаг беларускага нацыянальнага адраджэння.

Гэту з’яву некаторыя даследчыкі разглядаюць як ідэалагічны падмурак Слуцкага збройнага чыну 1920 года, і яны маюць рацыю. А калі глядзець глыбей, то дзейнасць «Папараць-кветкі» стане, у нейкім сэнсе, вызначальнай у фарміраванні многіх рыс сучаснай беларускай культуры.

### *Учынак Астроўскага*

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі, 95 гадоў таму, па ініцыятыве Радаслава Астроўскага, мясцовага памешчыка і камісара Слуцкага павета пры Часовым урадзе, у ліпені 1917 года ў Слуцку была заснавана Беларуская гімназія. Сёння няма адназначнага адказу, дзе яна размяшчалася. Адны крыніцы называюць будынак сучаснай гімна-зіі №1, другія — камерцыйнае вучылішча. Магчыма спачатку так і было. Але дакладна вядома, што для гімназіі, першым дырэктарам якой стаў Астроўскі, прыстасавалі драўляны будынак на Калоніі (раён сучаснага прадпрыемства «Горгаз»). Учынак Астроўскага і стане штуршком для з’яўлення ў горадзе «Папараць-кветкі».

Ужо ў верасні 1917 года навучэнцы Беларускай гімназіі Сяргей Бусел і Янка Ракуцька стварылі культурна-асветніцкае таварыства «Папараць-кветка». Па поглядам члены аб’яднання належалі да розных палітычных плыняў, але ўсіх іх аб’ядноўвала беларуская справа. Мэтай дзейнасці «Папараць-кветкі» аб’яўлялася вывучэнне і прапаганда беларускай мовы, культуры і мастацтва, далучэнне да культурных каштоўнасцяў шырокага кола насельніцтва. Трэба адзначыць, што заснавальнікі таварыства глядзелі значна далей звычайнай асветніцкай дзейнасці. У першым пункце статута «Папараць-кветкі» значылася такая задача: «Падрыхтаваць сваіх сяброў на сьвядомых грамадзян, якіе б у будучыне маглі аддаць сваю моц на карысьць Беларусі» (стыль і арфаграфія арыгінала).

### *Бліскучы вынік*

У кастрычніку 1919 года, калі ў аб’яднанні сталі пераважаць дарослыя, маладзёжная арганізацыя «Папараць-кветка» ператварылася ў грамадскую.

Складалася аб’яднанне з літаратурнай, краязнаў-чай, харавой і тэатральнай секцый. Сярод жыхароў павета папулярнасцю карысталіся выпушчаныя аб’яднаннем два нумары часопіса «Наша каляіна». Паступова з’яўляліся філіялы арганізацыі: у вёсках Старыца, Засялонне, Ліпнікі, Ісерна, мястэчках Грозава і Сухая Міля. Былі закладзены чытальні ў вёсцы Заграддзе і ў слуцкім прадмесці Востраў. З дапамогай сяброў аб’яднання ў павеце адкрываліся беларускія школы, для настаўнікаў былі наладжаны спецыяльныя курсы.



***ЗАСНАВАЛЬНІК БЕЛАРУСКАГА ТЭАТРА Ў СЛУЦКУ. Уладзіслаў Галубок (у цэнтры другога рада) з сябрамі слуцкага культурна-асветніцкага таварыства «Папараць-кветка». Слуцк 1920 г.***

У Слуцку харавая і тэатральная секцыі свя-точнымі вечарамі ставілі прадстаўленні, рабілі выезды з канцэртамі і пастаноўкамі ў вёскі і мястэчкі павета. Яе ўдзельнікі запрасілі з Мінска хор пад кіраўніцтвам нашага зямляка Уладзіміра Тэраўскага, які даў вечар-канцэрт, на наступны дзень — спектакль. Падзеяй для горада стала выступленне хора падчас абедні ў гарадскім Мікалаеўскім саборы. З тэатральнай

секцыяй летам 1920 года працаваў прыехаўшы з Мінска Уладзіслаў Галубок, выдатны тэатральны дзеяч, пісьменнік і рэжысёр, чыё імя зараз носіць Слуцкі народны тэатр.

Аўтарытэт і поспехі аб’яднання набылі такія памеры, што да яго ўрэшце далучылася практычна ўся слуцкая інтэлігенцыя.

***Слова Янкі Купалы***

Дзейнасць «Папараць-кветкі» заўважыў і адзначыў паэт Янка Купала. У газеце «Беларусь» за 15 лістапада 1919 года ён пісаў: «...перада мной ляжыць беларуская часопісь «Наша каляіна». Выдана яна ў Слуцку! Слуцак – павятовы гарадок – куды яму, здавалася бы, лезьці ў людзі ды яшчэ з сваёй газэтай! Аднак палез. Беларуская душа, як бачым, – жывучая, творчая, як яе не заганяй у казіны рог, а яна збудзіцца і затрапечацца.

Мала таго: гэта часопісь зьяўляецца органам беларускай нацыянальнай злучнасьці «Кветка-Папараці», каторая сваю чыннасьць пашырае на ўвесь Слуцкі павет і нават далей, за яго межы.

Гэта папраўдзе, як у песьні сьпяваецца: «А ў Слуцку на рыначку сталася праява!». Так, сябры, гэта вялікая праява!

Адбудаваньне незалежнасці Беларускай Дзяржавы бярэ ў свае рукі наша моладзь. Чэсьць і слава табе, беларуская моладзь, паўстаючая з пад беларускай саломеннай страхі! Ты сама сваімі рукамі адбудуеш сабе і сваім патомкам лепшую і сьвятлейшую будучыну. На бок з дарогі, панове і гаспада з Заходу і Ўсходу! Беларуская моладзь ідзе!» (стыль і арфаграфія арыгінала).

Крок у будучыню

Улады, што ў паслярэвалюцыйныя часы часта мяняліся на Случчыне, да беларускай справы ставіліся нядобразычліва. Падчас нямецкай і двух польскіх акупацый пры-ходзілася працаваць падпольна.

З-за таго, што многія актывісты аб’яднання прынялі ўдзел у антыбальшавіцкім Слуцкім збройным чыне 1920 года, ужо пасля ўсталявання Савецкай улады «Папараць-кветка» была прымушана спыніць дзейнасць.

Нягледзячы на нядоўгі час існавання, яна стала прадвесніцай тых культурна-асветніцкіх і адукацыйных грамадскіх рухаў Случчыны, якія пазней працавалі і працуюць на карысць нацыянальнай культуры.

**Артыкул:** Уладзімір Іваноў

# У зачараваным коле радыкалізму: з нагоды праследу гістарычных выданняў у Беларусі

*Падзеі вакол гістарычнага часопіса "Arche", а таксама вакол "Гродназнаўства", фактычна, адлюстроўваюць барацьбу двух праектаў – якой быць Беларусі. Інтэлектуалы, згрупаваныя ў недзяржаўныя грамадскія структуры, прэзэнтуюць Беларусь еўрапейскую, у той час як кіраўнік дзяржавы і ўся яго світа бачаць Беларусь еўразійскай.*




Еўрапейскую плынь улады ўсімі сіламі стрымліваюць. Яе не вынішчаюць, праўда, як пры Сталіне, аднак жорстка абмяжоўваюць пэўнымі рамкамі, каб выкарыстоўваць у палітычнай гульні з Захадам. Як толькі еўрапейская арыентацыя пачынае набіраць моц і небяспечна ўздзейнічаць на грамадства – пачынаюцца рэпрэсіі. Еўрапейскасць зноў заганяюць у межы адведзенага бантустану.

Часопіс "Arche" стаў надзвычай папулярным, у значнай ступені, дзякуючы яго рэдактару Валерку Булгакаву, які дэманструе як навуковыя, так і камерцыйныя здольнасці. Выдавецкі аддзел часопіса запоўніў кніжны рынак Беларусі цікавымі кнігамі замежных аўтараў. Кніга "Гродназнаўства" (навукова-папулярны нарыс гісторыі г.Гародні) таксама набыла значны грамадскі рэзананс. Сфармаваўся гродзенскі інтэлектуальны асяродак, які, як і часопіс "Arche", вельмі актыўна пашырае ідэі еўрапейскай Беларусі. Не выпадкова, што і наступ на Валерку Булгакава пачаўся ў Гародні.

Часопіс "Arche" – адзінае альтэрнатыўнае навукова-папулярнае выданне таксама адзінаму афіцыйнаму “Беларускаму

гістарычнаму часопісу”, дзе друкуюцца адцэнзураваныя артыкулы і парады настаўнікам, як правільна выкладаць гісторыю. Электронная версія часопіса не заменіць друкаваную на паперы. Інтэрнет менш зручны для карыстання і мае меншую, у параўнанні з кнігай, аўдыторыю. "Arche" чытаюць людзі сталага веку і пазбаўляюцца ад савецкіх стэрэатыпаў. "Arche" чытаюць навучэнцы і знаходзяць там іншую гісторыю сваёй краіны, якой няма ў іх падручніках. Таму закрыццё часопіса "Arche" і яго выдавецтва нанаясе вялікую шкоду найперш асветніцтву, пашырэнню гістарычных ведаў у Беларусі. Улады вельмі асцерагаюцца гістарычных навукова-папулярных выданняў, якія набываюць шырокую папулярнасць. Акадэмічныя працы іх менш турбуюць. Навуковы часопіс “Беларускі гістарычны агляд” (рэдактар Генадзь Сагановіч) яшчэ трымаецца.

Сітуацыя ў сучаснай Беларусі ўсё больш нагадвае перадваеннае становішча ў Заходняй Беларусі, якая знаходзілася ў складзе Польшчы. У канцы 1930-х гадах, у выніку ўзмацнення рэпрэсіяў з боку польскай улады, беларускія дзеячы маглі захаваць толькі некалькі навуковых выданняў, маладаступных для шырокага кола чытачоў.

Аднак ці можа так здарыцца і з еўрапейскай плынню ў Рэспубліцы Беларусь, калі яна згорнецца да акадэмізму? Думаю, што – не. Ідэалы еўрапейскай Беларусі ўсё больш пашыраюцца ў грамадстве. Заходнія рынкі і крыніцы інвестыцый становяцца ўсё больш патрэбнымі для прадпрымальнікаў. Ізаляцыя постсавецкай бюракратычнай эліты ўзмацняецца. З прычыны часовага ўзмацнення расійскага ўплыву верагодна толькі тое, што межы еўрапейскага бантустана ў Беларусі будуць зменшаны.

Падзеі вакол беларускіх выданняў яшчэ раз высвецілі адвечную праблему Беларусі, якую так добра адлюстравалі і філосаф Ігнат Абдзіраловіч у сваім творы “Адвечным шляхам” і паэт Янка Купала ў п’есе “Тутэйшыя”. Пасля крушэння Расійскай імперыі і стварэння Савецкага Саюзу Беларусь стала полем барацьбы за панаванне тут паміж савецкай Расіяй і Польшчай.

Падобная сітуацыя захоўваецца да нашых дзён. Свае намеры кантраляваць Беларусь сучасная Расія і не хавае. Польшча не хоча межаваць з Расіяй, а таму падтрымлівае праект незалежнай, еўрапейскай Беларусі. Таму не выпадкова, што афіцыйны Мінск разглядае Польшчу як галоўную перашкоду на шляху ператварэння Беларусі ў еўразійскую дзяржаву савецкага ўзору.

Хутка стагоддзе, як барацьба Расіі і Польшчы за Беларусь точыцца безперапынна. І гэта паранейшаму дзеліць беларускае грамадства на прыхільнікаў Захаду і прыхільнікаў Усходу. Калі кіраўнік дзяржавы і афіцыйныя прапагандысты гаворасць пра незалежную славянскую Беларусь, іх апаненты разумеюць гэта, як арыентацыю на Расію, якая пагражае незалежнасці беларускай дзяржавы. Калі беларускія інтэлектуалы гавораць пра незалежную еўрапейскую Беларусь, іх апаненты разумеюць гэта, як арыентацыю на Польшчу, якая пагражае зноў адарваць Заходнюю Беларусь. Стэрэатыпы мінулага пераадолець няпроста.

І ў нашым прыватным выпадку лічыцца, што за плячыма "Arche" і гродзенскага асяродка стаіць Польшча, а за плячыма кіраўніка Беларусі – Расія.

Дзе ж выхад з зачараванага кола? А ён, на маю думку, – у набыцці цярплівасці і мудрасці. Нельга ўяўляць Беларусь толькі еўрапейскай або толькі славянскай. Недарэчна спрашчаць, прымітызаваць краіну, размешчаную на скрыжаванні еўрапейскіх шляхоў. Беларусь – розная, шматгранная, шматэтнічная, полікультурная. У гэтым – яе своеасаблівасць. Нельга выстаўляць незалежную дзчржаву прарасійскай або прапольскай. Яна мусіць быць нейтральнай, стаяць па-за ўсялякімі ваеннымі блокамі і аб’яднаннямі. Шкада, што з дзеючых палітыкаў ніхто сурьёзна не змагаецца за статус нейтральнай Беларусі. Заклік да незалежнай і нейтральнай Беларусі не стаў першачарговым.

У канкрэтным выпадку – наступу на часопіс "Arche" і гродзенскі асяродак – адлюстроўваецца яшчэ адна праблем, якая дзеліць Беларусь на два непрымірымыя лагеры. Гэта – ацэнка Другой сусветнай вайны. Інтэлектуалы, згрупаваныя ў недзяржаўныя грамадскія структуры, прытрымліваюцца еўрапейскага погляду, у той час як кіраўнік дзяржавы і яго світа глядзяць на ваеннае мінулае вачамі расійскіх сталіністаў. Любыя

спробы пашырыць у грамадстве еўрапейскі погляд імгнення караюцца. Асабліва хваравіта на гэта рэагуе кіраўнік Беларусі. Існуе забароненая тэма – вывучэнне дзейнасці беларусаў, якія змагаліся з расійскімі бальшавікамі на баку нацыстаў. У афіцыйнай гістарыяграфіі іх называюць нацысцкімі пасобнікамі, паліцаямі. У пасляваеннай усходнебеларускай вёсцы слова "паліцай" лічылася самай вялікай абразай.

У пачатку гэтага стагоддзя як толькі часопіс "Спадчына" пачаў друкаваць матэрыялы пра так званых "паліцаяў", ён адразу ж пазбавіўся ўсялякай дзяржаўнай падтрымкі і ўрэшце-рэшт мусіў прыпыніць сваю дзейнасць. Тады ніякіх грамадскіх пратэстаў не назіралася. Зараз чырвоную лінію перайшоў часопіс "Arche" – і яго адразу ж пачалі ціснуць да долу. Але на гэты раз ужо гучыць грамадскі пратэст. Зразумела, што ён недапаможа. Улады не лічацца з грамадскай думкай. Але пратэсты сведчаць пра дэсаветызацыю беларускага грамадства. Моладзь даволі спакойна ставіцца да розных поглядаў на вайну. І ўсё ж, вайна па-ранейшаму выкарыстоўваецца ў якасці ідэлагічнай барыкады, якая дэкансалідуе грамадства.

У "Нарысах па Гісторыі Беларусі. 1795-2002" я прапанаваў формулу прымірэння. Жыхары Беларусі былі толькі гарматным мясам у барацьбе гітлераўскай і сталінскай тыраніяў. І партызаны, і тыя, хто супрацоўнічаў з нацыстамі, хоць і ваявалі паміж сабой дзейнічалі ў адным кірунку. І тыя, і іншыя змагаліся хай сабе з рознымі, але з ворагамі Беларусі і тым набліжалі яе незалежнасць. Аднак гэта ніяк не падзейнічала на дзяржаўную палітыку памяці. Не хапае мудрасці, гатоўнасці да ўзаемадаравання.

Урэшце рэшт, чарговы наступ на гістарычныя выданні – гэта праява хваробы беларускага грамадства на радыкалізм. І улады, і іх апаненты часцей за ўсё лічаць, што павінна быць толькі так і не іначай. Ініцыятыва прымірэння мусіць сыходзіць ад уладаў. Аднак наўрад ці дачакаемся. Нешта не бачна сярод кіраўніцтва Беларусі мудрацоў, арыстакратаў думкі. Хіба што, гэта агульны недахоп кіруючай эліты сучаснай еўрапейскай супольнасці.

**Артыкул:** *Захара Шыбекі*



# *Кліч роднай мовы*

*Для Бацькаўшчыны- маці буду йграць!*

***Я. Купала***

## Уладзіслаў Сыракомля: на сумежжы ліцвінства-беларускасці

Адзін з першых сістэмных даследнікаў у беларушчыне, ён такімі ж беларускімі вачыма ўгледзеўся ў культуру свайго народа як у мнагавечную духатворную традыцыю

*Будзеш жыць! Будуць векі ісці за вякамі, –*
*Не забудуцца дум тваіх словы,*
*Як і слоў беларускіх, жывучых між намі,*
*Не забыўся ты, лірнік вясковы.*
*Янка Купала. "Лірнік вясковы", 1910.*

У самы раз зверыць сваю думку з Купалавым словам, спадчынай Сыракомлі, з набыткамі даследнікаў яго творчасці, у прыватнасці, Г. Кісялёва. Дарэчы, Генадзь Васільевіч калісьці падтрымаў наша зацікаўленне падобнай тэмай, агучанай на міжнароднай славістычнай канферэнцыі, адлюстраванай у іншых публікацыях. Яшчэ раней гэтую ж праблему нацыянальнае свядомасці ў станаўленні новай беларускай літаратуры – ад "краёвай" да нацыянальнай – акрэсліў В.А. Каваленка.

Напрошваецца ўдакладненне наконт адналітасці, этнакультуровае скіраванасці краёвага пісьменства – сублітаратурнага прыдомку польскае (у другім выпадку рускае) славеснасці. Праўда, класічны фенамен ліцвіна-"краёўца" А. Міцкевіча здавалася б падважвае правамоцнасць панятка сублітаратурнасці. Але парадаксальнасць

магчымае засцярогі адразу знікае пры ўспрыманні аўтара "Пана Тадэвуша", "Дзядоў" як польскага, з вызначэння, паэта, чый лакальна-ліцвінскі патрыятызм на свой лад выявіў яго ўласна польскі светагляд, мастацкі геній – у рухомай, узаемапранікальнай прасторы "Літвы-айчыны" і "маці-Польшчы".
Складаней, супярэчлівей выглядае пытанне з "ліцвінамі" іншае катэгорыі – з польска-беларускімі (беларуска-польскімі) пісьменнікамі.



З гэтае прамежкавае двухдомнасці адны (ці не бальшыня) пачуваючыся палякамі, з "ліцвінскай" адметнасцю, кіравалі, аканчальна прычаліўшы да польскага берага. Другія – чуйна ўслухоўваліся ў абуджальныя сігналы свайго даўніннага "крывіцка-рускага" радаводу, з часам усведамляючы і ўласную нацыянальную ідэнтычнасць як беларускую – адпаведна этнамаркерам "Беларусь", "беларус", "беларускі", якія на зыходзе XIX ст. стала замацоўваюцца на абшары так званага Паўночна-Заходняга, "забранага" краю, пацясніўшы ранейшыя азначэнні кшталту "Літва", "ліцвін", "крывіч", "русін". У гэтым самапазнаўчым працэсе краёвае пісьменства выступіла своеасаблівым рухавіком-паскаральнікам на шляху нацыянальна-літаратурнага самавызначэння: ад "краёвасці" ("ліцвінскасці") да беларускасці. У гістарчычным кантэксце нашага літаратурнага Пачынальніцтва за Новым часам постаць Кандратовіча-Сыракомлі вымалёўваецца мабыць найвыразней, а для адраджэнскіх памкненняў сучаснікаў, паслядоўнікаў – найзначней ад іншых яго калегаў па пяру. Што пацверджвае надзіва ёмісты, разнабаковы характар творчага плёну беларускага Дабравесніка: паэта, крытыка, гісторыка літаратуры, краязнаўца, фалькларыста, у пэўнай ступені і мовазнаўцы, які пераважна польскай літарай выказаў дух, ментальнасць беларуса.
З кранальнай адданасцю Сыракомля, следам за Міцкевічам, маніфестуе сваю патрыятычную наканаванасць: "Святая Літва мая, краю мой родны"; "Бо мой прадзед шчырым быў ліцвінам". І – паралельна – сваё крывічанска-беларускае "я", найярчэй выяўленае ў "марцінкевічавых" сюжэтах пісьменніка (вершаванае прысвячэнне "Навуму", рэцэнзіі ў "Газеце варшаўскай"): "Хай жыве родны Мінск наш, браты дарагія!"; "На гэтай [беларускай] ніве працаваць можна і варта". Прычым паверанае паэтам і крытыкам чытачу – гэта не проста спачувальна староннi пагляд апалячанага шляхціча-інтэлектуала на люд сялянскі Літвы-Беларусі, але праява глыбока асабістага, лірычнага суперажывання ўласнае прыналежнасці да гэтага люду – "братоў у капоце, братоў у сярмязе" – іхняе мовы, культуры: "І я навучыўся крывіцкай мове… Бо гэта мова нашага літоўскага Статута, законадаўства...".
Адзін з першых сістэмных даследнікаў у беларушчыне, ён такімі ж беларускімі вачыма ўгледзеўся ў культуру свайго народа як у мнагавечную духатворную традыцыю – ад "Слова аб палку Ігаравым" ("Гэта беларуская старажытная песня"), першадрукаў Скарыны, Буднага, братоў Мамонічаў да Яна Чачота, Я.Баршчэўскага, А.Кіркора, А.Вярыгі-Дарэўскага, В.Дуніна-Марцінкевіча (адпаведныя старонкі ў "Гісторыі літаратуры ў Польшчы", на польскай, рускай мовах, у "Вандроўках..", "Мінску"). Заангажаваным стаўленнем да беларускага слова, гісторыі роднага краю Лірнік наш выходзіць далёка за ўмоўныя рамкі дэкларaванае ім "вясковасці", стаючыся фактычна асветнікам-будзіцелем Літвы-Беларусі, жывым увасабленнем яе непрамінальных творчых каштоўнасцей, прыўмножаных і яго асабістымі намаганнямі. Дасюль не блякнуць Сыракомлевы мастацка-вобразныя выявы беларускага чалавека ў рознатыповых сацыяльна-псіхалагічных іпастасях – селяніна-хлебароба, яго ж суседа – шарачковага шляхціча, палешука, паштара, жабрака-спевака, а таксама габрэя-карчмара, арандатара, вулічнага кнігара, або тутэйшага

татарына (чые продкі “пралілі не адну кроплю крыві, абараняючы сваю прыёмную айчыну”.
Душэўнай цеплынёй, хрысталюбнай ласкаю кранаюць чытацкае вока і слых яго пейзажныя, сямейна-бытавыя замалёўкі, як і спавядальныя строфы інтымных мрояў, перажыванняў пісьменніка. У асобе, стылявой манеры Лірніка вясковага – прыўзнятага рамантыка і прыземленага рэаліста – выразна пазначыліся тыпалагічныя рысы беларускага паэта-“народнага песняра”, ідэальнага суплёту мастацкіх і грамадзянскіх якасцей літаратуры.Зразумела, чаму гэты непрыкаяны “ліцвін”, працяты перажываннямі сучасных рэалій, гістарычнага лёсу Бацькаўшчыны, прывабліваў да сябе не адну чулліва крэўную душу з таго ж ліцвіна-беларускага раздарожжа. Як у выпадку з Арцёмам Вярыга-Дарэўскім, стваральнікам знакамітага “Альбома” пісьменнікаў-“краёўцаў”, чыё ўзрушлівае літанне ў лісце да Сыракомлі многае сведчыць пра глыбіню-вастрыню духоўных парыванняў “Наддзвінскага дудара” і ўскосна – пра ўзаемную шчырасць яго сябра-дарадчыка: “Ажыві маё рассеянае беларускае сэрца! Падмацуй мой дух!”. Што ўжо казаць пра сяброўска-творчае сумоўе Марцінкевіча-Сыракомлі, увечненае абок іншага ў балеснай паэме “Плынуць вятры” (пра трагічныя падзеі ў Варшаве 1861 г.), вернутай сучаснаму чытачу стараннямі нястомнага Кротуса-Кісялёва. Невыпадкова ў асабістай бібліятэцы самотніка з Барэйкаўшчыны знаходзіліся і кнігі першага Беларускага дудара, магчыма з дарчымі надпісамі аўтара, творчасць якога стала не толькі фенаменальнай асабістай з`явай, але прыкметным чыннікам развіцця, грамадскае легітымнасці беларускае літаратуры як такой. Не ашчадзілі нашаму Лірніку кранальных слоў узнання А.Кіркор, В.Каратынскі, А.Плуг, пазней З.Тшачкоўская-Манькоўская (псеўданім Адам М-скі), Янка Лучына, А.Абуховіч і, нарэшце, Янка Купала, а таксама рускі пісьменнік М.Ляскоў.
У полі Сыракомлевага прыцягнення бачыцца нам яго сучаснік Ю.Ляскоўскі, аўтар “Беларускага бандурыста” (Вільня 1863, на польскай мове), чыя рамантычна ахопленая беларускаю стыхіяй муза адчувальна перагукоўваецца з многімі вершамі, гавэндамі аўтара “Лірніка вясковага”. Магчыма, эміграцкія абставіны пана Юльяна (пазней пад псеўданімам Карабіча публікатара беларускіх вершаў “Зямелька мая..”, “Пад дуду” 1882) заважылі на непасрэднай лучнасці гэтых паэтычна крэўных постацей, хаця Кіркораў след у жыццяпісе Ляскоўскага (выдавец яго згаданага вышэй зборніка) дазваляе не выключаць іхняга асабістага знаёмства, мажліва ў тым жа віленскім “літаратурным салоне” Яна са Слівіна.
Словам, у беларускім сімвалічным аркестры дудароў, песняроў, бандурыстаў, лірнікаў сярэдзіны XIX ст. вельмі вылучаецца мілагучны спеў Сыракомлі, заварожваючы чысцінёй, пранікнёнасцю мелодыі. Да таго ж і сам наш пясняр, не раз аказаўшыся за дырыжорскім пульпітрам літаратурна-музычнага ансамбля, прыстойна паспрыяў дынамічнасці й гарманічнасці супольнага гучання. Даўно заўважана прываблівая каларытнасць “крэсовай” пальшчызны творцы “Паштальёна”, “Жмені пшаніцы”, “Яна Дэмбарога”, густа перасыпанай беларусізмамі. Але ж і польскамоўная тканка многіх яго тварэнняў успрымаецца чытачом-беларусам чымсці вельмі знаёмым, а нават родным – сугучным яго ўласнай моўна-гаваркой практыцы, пераказанай лацінкаю: “od chaty do chaty; z kraju do kraju; lirnik wioskowy; Tu moj domek pochylony; ciemny bor sosnowy; Oto przyzba oto ganek; Ot na scianie wieniec zyta— Pamiec zniwa i dozynek”. Сапраўды, як жа тая пальшчызна “лёгка кладзецца па-беларуску”. Усе гэтыя словы, фразеалагізмы – “ад хаты да хаты”, “ад краю да краю”, “прызба і ганак”, “вянок жыта – памяць жніва”, процьма іншых лексічных адзінак, жыўцом перанесеных з польскага на беларускі палетак (калі не спрадвеку на ім прарослых) гожа зіхацяць у лірычным слоўніку нацыянальнае паэзіі, кранаючы пачуцці, творчую фантазію наступнікаў Уладзіслава Сыракомлі, чыіх “слоў беларускіх” вячыстасць празарліва прадказаў Купала. Тым самым істотна скарэктаваўшы не зусім дакладнае, калі не ўшчэрбнае вызначэнне Каратынскім спадчыны свайго колішняга настаўніка ўсяго толькі як “Слабое святло польскага пісьменства”, цалкам змаўчаўшы яго ліцвіна-беларускую прамяністасць.
Аднак жа пад родным нашым небасхілам святло гэтае каторы ўжо век праменіць даволі

ярка – амаль на біблійны лад: “І свет ў цемры свеціць і цьма не схлынула яго”.
**Артыкул:** *Аляксея Каўкі*



# *150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі*

**14. Калі распачалося суперніцтва паміж Вільняй і Масквою?**

Геапалітычнае становішча Вялікага Княства Літоўскага і Маскоўскай дзяржавы вызначыла характар іх узаемадачыненняў. Да першых канфліктаў паміж Вільняй і Масквою дайшло ў гады княжання Гедзіміна. Вялікае Княства прэтэндавала на лідэрства ва Ўсходняй Эўропе, на ролю збіральніка ўсходнеславянскіх земляў: Альгерд, падтрымліваючы Цвер, ажыццявіў тры паходы на Маскоўшчыну, даходзіў да самай Масквы; пад пратэктаратам Вітаўта знаходзіліся Ноўгарад Вялікі, Пскоў і Разань.
Ужо пасля таго як усе беларускія землі аб'ядналіся ў Вялікім Княстве Літоўскім, Маскоўская дзяржава, выбіўшыся пры падтрымцы залатаардынскіх ханаў у лік першых сярод княстваў Уладзіміра-Суздальскай Русі, пачала актыўна павялічваць свае землі за кошт іншых. Падбіваючы суседнія княствы, пад канец XV стагоддзя яна ўсутыч падышла да ўсходніх межаў Вялікага Княства. І калі маскоўскі князь Іван III (1462-1505) назваўся «государем всея Руси», ён адкрыта выступіў з тэрытарыяльнымі дамаганнямі да Вільні: абвясціў сваёй вотчынай Полацак, Віцебск, Смаленск ды іншыя беларускія гарады. У 1492 годзе Маскоўская дзяржава парушыла «вечны мір» з Вялікім Княствам і развязала супраць яго вайну. Палітычная праграма так званага «ўз'яднання» спатрэбілася Маскве для апраўдання анексіі беларускіх і ўкраінскіх земляў.
З гэтага часу вызначальным фактарам гістарычных падзей ва Ўсходняй Эўропе было смяротнае супрацьборства Масквы і Вільні. Захопніцкія войны маскоўскіх уладароў сталі амаль бесперапыннымі: яны вяліся ў 1492-1494, 1500-1503, 1507-1508, 1512-1522 гадах і г.д. Вільня мусіла тады ўсе намаганні скіроўваць на абарону сваіх межаў. Лінія супрацьборства паміж Масквой і Вільняй з'яўлялася фактычна лініяй супрацьстаяння розных палітычных сістэм, розных культурных цывілізацый, розных светаў - дэмакратычнага эўрапейскага і дэспатычнага ўсходняга.

**Да 200-годдзя з дня нараджэння Багрыма Паўлюка (1812 – 1891), беларускага паэта**

Зайграй, зайграй, хлопча малы...
Зайграй, зайграй, хлопча малы,
І ў скрыпачку, і ў цымбалы,
А я зайграю ў дуду,

Бо ў Крошыне жыць не буду.
Бо ў Крошыне пан сярдзіты,
Бацька кіямі забіты,
Маці тужыць, сястра плача:
«Дзе ж ты пойдзеш, небарача?..»

Дзе ж я пайду? Мілы Божа!
Пайду ў сьвет, у бездарожжа,
У ваўкалака абярнуся,
З шчасьцем на вас азірнуся.

Будзь здарова, маці міла!
Каб мяне ты не радзіла,
Каб мяне ты не карміла,
Шчасьліўшая ты бы была!

Каб я каршуном радзіўся,
Я бы без паноў абыўся:
У паншчыну б не пагналі,
У рэкруты б не забралі
І ў маскалі не аддалі.

Мне пастушком век ня быці,
А ў маскалях трудна жыці,
А я і расьці баюся,
Дзе ж я, бедны, абярнуся?

Ой, кажане, кажане!
Чаму ж ня сеў ты на мяне?
Каб я большы не падрос
Ды ад бацькавых калёс.

Паўлюк

**працяг….** Напалеон выбраў яго таму, што ўбачыў у ім чалавека адданага і вернага. Беларусы ўвогуле былі самымі лепшымі жаўнерамі ў савецкім войску. Я ня раз чуў гэта ад афіцэраў.



*[Пагоня на афіцэрскай шапцы 17 - га ўланскага палка]*

***— А што спадзяваліся атрымаць ад Напалеона яшчэ нядаўнія грамадзяне ВКЛ?***

— Найперш яны спадзяваліся на аднаўленьне дзяржаўнасьці Рэчы Паспалітай, ВКЛ, яны хацелі з дапамогай Напалеона пазбавіцца ад расейскага панаваньня і дэспатызму. Трэба ўявіць тагачасную сытуацыю — ад ліквідацыі Рэчы Паспалітай і ВКЛ прайшло мала часу, усяго 17 гадоў. Гэта менш, чым жыцьцё аднаго пакаленьня. Усе памяталі сваю дзяржаву, шляхецкія вольнасьці, памяталі, што яны былі гаспадарамі сваёй краіны. А ў Расейскай імпэрыі яны мусілі даказваць сваё шляхецтва. Прыйшлі іншыя формы прыгону для сялянаў. Замест падымнага — ад гаспадаркі — расейцы ўвялі індывідуальны прыгон. Прыйшлі падаткі, якія былі ў 5 разоў вышэйшыя, чым падаткі ў расейскіх губэрнях. Усе хацелі ад гэтага пазбавіцца. Напалеона віталі кветкамі і шампанскім!

***— Напалеон перад расейскай кампаніяй сустракаўся з Тадэвушам Касьцюшкам. Здавалася, у іх маглі быць пэўныя супольныя мэты. Чаму ўсё ж аніякага супрацоўніцтва ў іх не атрымалася?***

— І не магло атрымацца, бо гэта былі розныя людзі. Касьцюшка — патрыёт сваёй айчыны, дэмакрат па перакананьнях. А Напалеон быў перакананы ў сваёй вялікасьці, ён верыў у сваю надзвычайнасьць, ён кіраваў лёсам Эўропы, лёсам сьвету. Ён лунаў над зямным шарам. Для Напалеона Касьцюшка быў дробным мясцовым дзеячом, і інтарэсы шляхты ВКЛ — дробнымі рэгіянальнымі інтарэсамі. Ён думаў катэгорыямі сусьветнымі, імпэрскімі. Напалеон з паручніка стаў гэнэралам у 21 год, потым — першым консулам, потым — імпэратарам, заваяваў палову Эўропы, усё было адкрыта перад ім. Вядома ж, ён ня мог паразумецца з праўдзівым дэмакратам Касьцюшкам, які стаяў на зямлі. Таму Касьцюшка і адышоў. Ён бачыў, што Напалеон апантаны маніяй велічы, што ён для Айчыны Касьцюшкі нічога добрага ня зробіць і скончыць вельмі дрэнна.

***— Як вядома, Напалеон спачатку не зьбіраўся займаць Маскву. Калі б ён застаўся, скажам, у Вільні і не пайшоў на злом галавы ўглыб Расеі, што магло б стацца? Наколькі Напалеону залежала на тым, каб пакарыць усю Расею?***

— Калі гаварыць пра пачатак вайны, то яе плянавала Расея. Расея ўжо з 1810 году рыхтавалася да вайны. І першым крокам да канфрантацыі было прыбыцьцё імпэратара Аляксандра да войскаў у Заходняй губэрні. Расея тут канцэнтравала войскі. Расея зьбіралася атакаваць Варшаўскае герцагства і першай распачаць вайну супраць Наплеона. Напалеон апярэдзіў. Трэба мець на ўвазе, што на тэрыторыі Беларусі некалькі гадоў стаяла шматлікае расейскае войска. А гэта — бясконцыя наборы рэкрутаў, канфіскацыя жыўнасьці, фуражу, харчаваньня. Людзі былі незадаволеныя. І калі б Напалеон затрымаўся там, дзе ён плянаваў, і даў сялянам волю з зямлёй, хай сабе і за выкуп, то гісторыя зусім інакш бы павярнулася. Расея ніколі б нашыя землі не заваявала б. Але Напалеон захаваў прыгон. Таксама вельмі красамоўны факт — часовы ўрад ВКЛ праводзіў набор у войска для Напалеона па расейскай рэкруцкай сыстэме, і гэта было ўспрынята вельмі нэгатыўна. Гэта зноў жа пацьвярджае тое, што Напалеону ад ВКЛ было патрэбнае гарматнае мяса для дасягненьня сваіх імпэрскіх мэтаў.

***— Як хутка ў шляхты адкрыліся вочы на сапраўдныя мэты Напалеона?***

— Паўтаруся, шляхта і мяшчане віталі Напалеона з вялікім патрыятызмам. Ёсьць дакумэнт пра тое, як у Горадні віталі Напалеона. Збудавалі трыюмфальную браму. Брат імпэратара Джэром Банапарт затрымаўся

ў Горадні, бо ён там у шампанскім купаўся, з паненкамі танчыў. І ўпусьціў расейскую армію, якая здолела ад яго адарвацца. Кіраўніцтва Гарадзенскага павету выдала адозву, якая пачыналася з словаў: «Час збавеньня прыйшоў! Прыйшлі нашыя збавіцелі». Адразу пачаўся запіс добраахвотнікаў у напалеонаўскае войска. І сяляне Вядомы цыркуляр Кутузава цару Аляксандру, дзе той скардзіцца, што сьвежанабраныя беларускія рэкруты пры адступленьні расейскай арміі паразьбягаліся яшчэ да Смаленску спадзяваліся, што прыйдуць французы і дадуць свабоду. І іх спадзяваньні не апраўдаліся. Што галоўнае для селяніна? Яму ўсё роўна, хто ў яго забірае апошнюю карову — расейскі ці францускі афіцэр. Заўсёды так бывае — калі прыгон, калі страшная эксплюатацыя, спадзяюцца на зьнешняга вызваліцеля. Нехта прыйдзе і вызваліць, і нам будзе вальней. Потым аказваецца, што стары прыгон зьмяняецца новым. Таму сяляне хутка расчараваліся. Але сярод беларускага сялянства не было такога масавага патрыятызму, як расейцы любяць паказваць у фільмах, апісваць у аповесьцях. Як там у Льва Талстога: «Дубіна сялянскай вайны паднялася і пачала глушыць усіх французаў». У нас такога не было. У нас часьцей абараняліся ад фуражыраў. Беларускія сяляне не хацелі ваяваць і ў расейскай арміі. Вядомы цыркуляр Кутузава цару Аляксандру, дзе той скардзіцца, што сьвежанабраныя беларускія рэкруты пры адступленьні расейскай арміі паразьбягаліся яшчэ да Смаленску. Яны паўцякалі ў свае гаспадаркі, бо адчувалі, што ідзе нехта мацнейшы за расейскага цара, і трэба быць дома — можа, дасьць зямлю і волю.

***— Напалеон паклаў сотні тысячаў жыцьцяў у той вайне. І вайну ўрэшце прайграў. Але — ён ваенны геній, яго прах знаходзіцца ў францускім Пантэоне ў Парыжы. За што яму такая пашана?***

— Заслугі Напалеона ў гісторыі нашага кантынэнту несумненныя. Напалеон, фактычна, расчысьціў Эўропу ад фэадалізму. На займаных ім тэрыторыях хутка ліквідоўваліся эканамічныя і палітычныя фэадальныя перажыткі. Напрыклад, ён разграміў Прускае каралеўства і там з 1807 году пачалося вызваленьне сялянаў. Французы цэняць Напалеона за тое, што ён зрабіў для іх краіны. Ён таксама і ў Францыі ліквідаваў масу фэадальных інстытутаў. Ён увёў гэтак званы кодэкс Напалеона, які і сёньня ляжыць у аснове грамадзянскага кодэксу Францыі.



*[Апошні наступ Ю. Панятоўскага]*

Ён зрабіў Францыю адзінай дзяржавай. Вядома, Напалеон быў аўтарытарным кіраўніком. Як праводзіліся выбары пры ім? Выбіралі вельмі нешматлікія грамадзяне адкрытым галасаваньнем. Напалеон любіў рэфэрэндумы і імпэратарам стаў акурат праз рэфэрэндум у 1804 годзе. Парадокс быў у Францыі — была пасада імпэратара, але Францыя афіцыйна называлася рэспублікай. Імпэратарам Францускай рэспублікі Напалеон сам сябе называў. Пасьля Напалеона пачаліся прымацца канстытуцыі ў Эўропе. Улада манархаў была абмежаваная. На Венскім кангрэсе нават расейскі цар Александар І быў вымушаны для квазі-польскай дзяржавы, Царства Польскага, даць канстытуцыю і парлямэнт. І гэта ў 1815 годзе. У сябе ў Расеі расейцы ўвялі гэтыя інстытуцыі толькі ў 1905 годзе, амаль на 100 гадоў пазьней! Так што заслугі Напалеона несумненная.

***— Беларуская шляхта ў Напалеоне бачыла вызваліцеля. Як пазьней беларусы бачылі***

***вызваліцеля ў Юзафе Пілсудзкім, у кімсьці яшчэ. Гэта што, наша нацыянальная рыса — чакаць, што нехта прыйдзе і дасьць нам волю?***

— Гэта звычайная справа для нашага рэгіёну — краінаў Цэнтральнай Эўропы. Кожны нацыянальны рух спадзяваўся на нейкае супэрмоцарства, супэрдзяржаву. Той жа Юзаф Пілсудзкі сам спадзяваўся на Аўстра-Вугоршчыну, думаў, што ўдасца аб’яднаць Польшчу пад яе зьверхнасьцю. Палітычны апанэнт Пілсудзкага Раман Дмоўскі спачатку спадзяваўся на Расею, а потым перакінуўся на Францыю і Вялікую Брытанію. Летувіскія палітыкі таксама ўвесь час лавіравалі паміж супэрдзяржавамі, вугорскія, славацкія — усе. Нашая частка Эўропы была падзеленая паміж трыма імпэрыямі — германскай, аўстра-вугорскай і расейскай. І кожны нацыянальны рух спадзяваўся на нейкі зьнешні чыньнік. Летувісы — на немцаў, палякі і ўкраінцы — на аўстра-вугорцаў. Гэта норма. Ня толькі беларусы на зьнешняга сябра спадзяваліся. Усе спадзяваліся.

***У працяг тэмы пра вайну 1812 г.***



Дамінік Геранім Радзівіл - вайсковы дзяяч Рэчы Паспалітай, палкоўнік войска Княства Варшаўскага. XI ардынат на Нясьвіжы і Алыцы, валодаў маёнткамі Біржы, Дубінкі, Слуцак, Капыль. Дамінік Геранім Радзівіл — апошні наўпроставы прадстаўнік нясьвіскай мужчынскай лініі роду Радзівілаў.

З 1810 служыў у войску Княства Варшаўскага, меў званьне палкоўніка і камандаваў 8-м палком уланаў. У чэрвені 1812 далучыўся да Напалеона ў Вільні, калі той паабяцаў свабоду і незалежнасьць Рэчы Паспалітай. Удзельнічаў у напалеонаўскай выправе на Маскву, за ўдзел у бітве пад Смаленскам узнагароджаны Ордэнам Ганаровага легіёну.

З кастрычніка 1812 атрымаў званьне маёра, браў удзел у бітве пад Ліпскам. Атрымаўшы цяжкую кантузію ў бітве пад Ганаў, памёр у Францыі 11 лістапада 1813.

Улады Расейскай імпэрыі сэквэстравалі маёнткі Дамініка Радзівіла за ўдзел яго ў вайне на баку Напалеона.



# 1812 год
# Выбар генерала Касцюшкі

Выхадзец з Беларусі, нацыянальны герой Польшчы і ЗША, Касцюшка, нягледзячы на страту Рэччу Паспалітай незалежнасці і вымушаную эміграцыю, і ў пачатку XIX стагоддзя працягваў заставацца ўплывовай грамадска-палітычнай фігурай. Бясспрэчны аўтарытэт гэтага чалавека прымусіў Аляксандра I і Напалеона Банапарта задумацца пра тое, як прыцягнуць генерала на сваю службу. Кожны з імператараў разумеў, што поспех у гэтай справе абяцае значныя дывідэнды ў вырашэнні так званага «польскага пытання»

Пасля вяртання з ЗША на стары кантынент у 1798 годзе Касцюшка пасяліўся пад Парыжам. Дадзены факт выклікаў вялікую занепакоенасць у вышэйшых палітычных колах Расійскай імперыі. Устрывожаны міністр замежных спраў Расійскай імперыі граф Варанцоў запатрабаваў тэрмінова сабраць звесткі пра тое, што мяцежны генерал робіць у Парыжы, як да яго ставяцца французскія ўлады і асабіста Напалеон. Адказ, дасланы ў Пецярбург з Парыжа, супакоіў царскага

чыноўніка. У дэпешы ад 10 сакавіка 1804 года паверaны ў справах Расіі ў Парыжы П. Убры дакладаў, што польскі генерал не меў адносін з французскім урадам.

Сапраўды, Касцюшка расчараваўшыся імперскімі амбіцыямі Напалеона, яго двухсэнсоўнымі і загадкавымі заявамі наконт лёсу Польшчы, абыякавым стаўленнем да салдат і афіцэраў польскага легіёна, які змагаўся на баку Францыі ў Італіі і іншых краінах, вырашыў не ўмешвацца ў палітычныя працэсы ў Еўропе.

Аднак поспехі напалеонаўскай арміі ўсё больш усялялі ў палякаў надзею на адраджэнне Рэчы Паспалітай. Падчас адной з сустрэч Напалеона з генераламі ў лістападзе 1805 года хтосьці з французскіх военачальнікаў заўважыў, што Тадэвуша Касцюшку варта было б выкарыстаць для падрыхтоўкі і арганізацыі ўсеагульнага польскага паўстання. Да таго ж у французскім штабе мелі досвед наконт сучаснай тактыкі і стратэгіі вядзення бою, якую прапаведаваў былы кіраўнік паўстання 1794 года. Менавіта Касцюшка быў адным з першых у Еўропе, хто пачаў выкарыстоўваць манеўранасць пяхоты падчас бою. Гэта тактыка даказала сваю эфектыўнасць падчас вайны за незалежнасць у ЗША.

У 1806 годзе французскі імператар загадаў міністру паліцыі Ж. Фушэ прывезці кіраўніка паўстання 1794 года ў яго штаб-кватэру. Прыехаўшы ў Барвіль, французскі чыноўнік заявіў генералу, што Напалеон збіраецца ваяваць супраць Расійскай імперыі і польскі народ павінен дапамагчы Францыі ў гэтай справе. Але «пан Тадэвуш» запатрабаваў гарантый аднаўлення незалежнасці Польшчы, яе канстытуцыі і палітычнай роўнасці яе грамадзян.

Даведаўшыся пра патрабаванні Касцюшкі, Напалеон заявіў, што абыдзецца без яго. Аднак французы канчаткова не адмовіліся ад ідэі выкарыстаць знакамітага ўраджэнца Брэстчыны. Ж. Фушэ ад імя Касцюшкі стварае ілжывы маніфест з заклікам да палякаў падтрымаць Напалеона. Абураны генерал запатрабаваў абвяржэння фальшыўкі і раскрыцця імя сапраўднага аўтара дадзенага дакумента.

Падчас зімовай кампаніі 1806–1807 гадоў польская тэма зноў стала актуальнай. Прычым актыўнасць у гэтым кірунку пачала праяўляць і Расійская імперыя.



Так, сярод эліт былога Вялікага Княства Літоўскага адна за другой сталі з’яўляцца ідэі адраджэння Рэчы Паспалітай пад скіпетрам Аляксандра І. Аўтарамі аднаго з праектаў былі былы ўдзельнік паўстання 1794 года Томаш Ваўжэцкі і былы пасол ад Брэсцкага павета на соймы 1782, 1786, 1788–1792 гадоў Станіслаў Нямцэвіч. Менавіта Нямцэвіч прадставіў у Пецярбургу міністру замежных спраў Расійскай імперыі А. Чартарыйскаму свой план «Myśli względem ziem litewskich i ruskich», у адпаведнасці з якім з зямель былога ВКЛ меркавалася стварыць аўтаномную дзяржаву. На жаль, не вядома, якое месца адводзілі стваральнікі плана асобе Тадэвуша Касцюшкі, але вялікіх сумневаў няма, што рэалізацыя любога дзяржаўнага праекта на землях ВКЛ і Рэчы Паспалітай не магла б абысціся без такой важнай персоны.

У гэты ж час на польскіх землях, якія знаходзіліся пад французскай акупацыяй, таксама абмяркоўваліся планы адраджэння Рэчы Паспалітай. У прыватнасці, князь Ю. Панятоўскі прапаноўваў французскаму імператару аднавіць Польскае Каралеўства на тэрыторыях, якія адышлі пасля падзелаў да Прусіі і Расійскай імперыі. У Варшаве таксама былі чутныя заклікі аднавіць у Польшчы

манархію, а каралём абвясціць... Тадэвуша Касцюшку.



*Мабільная пяхота*

Сам генерал увесну 1807 года накіраваў у напалеонаўскі генштаб дакумент пад назвай «Праект наступнай вайны ў Польшчы». У адпаведнасці з ім французскаму камандаванню прапаноўвалася сфармаваць з палякаў рухомыя кавалерыйскія атрады і накіраваць іх у дыверсійныя рэйды ў Брэсцкае ваяводства, іншыя раёны гістарычнай Літвы, а таксама на Валынь. Гэтыя атрады, пазбягаючы сутычак з буйнымі атрадамі рускіх, павінны былі руйнаваць тылавую інфраструктуру непрыяцеля і скоўваць перамяшчэнне буйных злучэнняў рускай арміі. Акрамя гэтага, дыверсанты вялі б выведвальную дзейнасць і правакавалі б антырускія выступы.

Эфектыўнасць гэтай стратэгіі была даказана яшчэ падчас паўстання 1794 года. Тады атрад пад камандаваннем С. Грабоўскага ў раёне Івянца перайшоў мяжу з Расійскай імперыяй і паглыбіўся на тэрыторыю Міншчыны. Рускі гарнізон у Мінску быў досыць шматлікім, таму Грабоўскі не адважыўся атакаваць горад і рушыў у бок Койданава. Насельніцтва ўсходняй Беларусі, нягледзячы на рускую прапаганду, у сваёй большасці са спачуваннем ставілася да «ліцьвінаў». Дыверсійны атрад пастаянна папаўняўся новымі добраахвотнікамі. Усё гэта дазволіла Грабоўскаму сходу захапіць добра ўмацаваны Бабруйск і знішчыць рускі гарнізон, які там знаходзіўся. Царскае камандаванне было настолькі занепакоена дзейнасцю дыверсантаў, што на барацьбу з імі з Заходняй Беларусі адклікала 4 тысячы рускіх салдат. Факты паспяховай дзейнасці дыверсійных падраздзяленняў Касцюшкі былі, безумоўна, вядомыя французскім генералам, што прымусіла іх з усёй уважлівасцю падысці да вывучэння прапановы генерала.

Пасля пачатку руска-французскай вайны 1812 года Касцюшка працягваў чакаць і назіраць. Прадстаўнікі Генеральнай канфедэрацыі Польскага Каралеўства спрабавалі прапанаваць генералу ўзначаліць гэты орган. Угаварыць састарэлага Касцюшку павінна была князёўна Ганна Сапега. Але генерал адмовіўся ад прапановы, матывуючы сваё рашэнне тым, што «канфедэрацыя не можа гарантаваць цэласнасць межаў Польскага Каралеўства».

Як вядома, руская кампанія Напалеона скончылася поўным правалам, і мноства палякаў, што падтрымалі французаў, назаўсёды засталіся ляжаць на заснежаных палях «матухны Расіі». Іншыя адступілі з рэшткамі «вялікай арміі». Навіну пра тое, што рускія войскі ўвайшлі на французскую зямлю, Касцюшка сустрэў з непрыхаваным натхненнем. У лютым 1814 года ён нават прымаў у сябе рускіх казачых афіцэраў і забараніў жыхарам сваіх уладанняў аказваць супраціў «вызваліцелям».

Пасля падзення напалеонаўскай імперыі «вырашэннем» лёсу польскіх земляў заняўся Аляксандр I. Рускі манарх, як і яго французскі візаві, не мог не ўспомніць пра Касцюшку, тым больш што генерал нагадаў аб сабе сам. 9 красавіка 1814 года ён накіраваў цару ліст, у якім прасіў абвясціць для палякаў усеагульную амністыю, стварыць у Польшчы канстытуцыйную манархію і, нарэшце, праз дзесяць год адмяніць прыгоннае права і надзяліць сялян зямлёй. Праз месяц Касцюшка атрымаў адказ ад Аляксандра I. У лісце цар рассыпаўся кампліментамі і запрашаў Касцюшку да супрацоўніцтва. 5 мая 1814 года генерал быў урачыста прыняты царом у Парыжы. У 1815 годзе адбыўся Венскі кангрэс, па выніках якога было створана Царства Польскае. З гэтага моманту рускі імператар ужо не цікавіўся асобай «знакамітага ліцьвіна». Хутка генерал выехаў у Швейцарыю, дзе і памёр у 1817 годзе.



***Эмблема войска ВКЛ***

Будучы сапраўдным патрыётам I Рэчы Паспалітай, Касцюшка з болем перажываў трагедыю падзелаў сваёй краіны ў канцы XVIII стагоддзя. «Ліцьвін» па паходжанні, ён стаў сапраўдным «палітычным» палякам, які жадаў адрадзіць з попелу некалі магутную Айчыну. Як бы ні было, герой паўстання 1794 года не стаў марыянеткай у чужых палітычных гульнях, чым прымусіў паважаць сябе і сучаснікаў, і нашчадкаў.

**Артыкул:** *Ігара Мельнікава*

# *Блог В. Ю. Ластоўскага*



***Людзьмі трэба звацца!***
***Людзьмі беларускімі!***

## Якая гісторыя беларускага нацыянальнага сьцягу?

— Вось-жа беларусы даўней зваліся крывічамі, ад слова "кроў". Крывіч — значыцца блізкі з крыві, сваяк. Крывічы жылі у цеснай сувязі між собку, тварылі як-бы адну вялікую радзіму-сям'ю. Відавочным знакам гэтай кроўнай сувязі быў чырвоны колер крыві. Дзеля гэтага аж дагэтуль чырвоны колер зьяўляецца улюблёным і пераважным колерам ува усім беларускім народным мастацтве. Няма, здаецца, аніводнай беларускай мастацкай рэчы народнага паходжаньня, дзе-б ня было чырвонага колеру. Вышываныя кашулі, паясы, ручнікі, сьвіткі — усюды пануе злучэньне белага і чырвонага колераў, часамі уплятаецца яшчэ колер зялёны, чорны.

Асноўным-жа колерам беларускім зьяўляецца колер белы. Яшчэ у пачатках гісторыі нашыя прашчуры навучыліся сеяць і вырабляць лён, ткаць з яго белае палатно, з якога шылі сабе адзежу. Таксама і сукно, тканае з воўны белых авечак, беларусы насілі у прыродным, нехварбаваным выглядзе. І суконныя і лянныя белыя вопраткі беларусы заўсёды прыбіралі чырвонымі узорамі або чырвонымі паясамі. Гэткія вопраткі можна і цяперака бачыць у некаторых мясьцінах Беларусі. Белыя нагавіцы, белая кашуля, белая сьвітка, падперазаная чырвоным паясом — вось сыльвэтка беларуса. Зразумела, што і нацыянальны сьцяг беларусаў бел-чырвона-белы. Ен прыгадвае нам нашую белую сьвітку з чырвоным паясом.

Беларускі нацыянальны сьцяг і беларускі гэрб "Пагоня" — гэта вялікі нацыянальны скарб для усіх Беларусаў.

# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі лістапада

**3 лістапада**
130 гадоў з дня нараджэння Коласа Якуба (сапр. Міцкевіч Канстанцін Міхайлавіч) (1882 – 1956), народнага паэта Беларусі, класіка беларускай літаратуры1 красавіка 1862 г.

**7 лістапада**
90 гадоў з дня нараджэння Саўчанкі Мікалая Яўсеевіча (1922 – 2001), вучонага-медыка, акадэміка Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

**13 лістапада**
135 гадоў з дня нараджэння Нікольскага Мікалая Міхайлавіча (1877 – 1959), гісторыка-усходазнаўца, акадэміка Акадэміі навук Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**13 лістапада**
20 гадоў назад (1992) прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны".

**14 лістапада**
200 гадоў з дня нараджэння Багрыма Паўлюка (Паўла Восіпавіча) (1812 – 1891), беларускага паэта.

**14 лістапада**
110 гадоў з часу выдання (1902) у Мінску газеты "Северо-Западный край" (выходзіла да 21 снежня 1905 г.).

**14 лістапада**
105 гадоў з дня нараджэння Ларчанкі Міхася (Міхаіла Рыгоравіча) (1907 – 1981), беларускага крытыка і літаратуразнаўца, заслужанага дзеяча навукі Беларусі.

**15 лістапада**
145 гадоў з часу заснавання (1867) Магілёўскага музея пры губернскім статыстычным камітэце – аднаго з першых афіцыйных музеяў у Беларусі (дзейнічаў да 1919 г.).

**18 лістапада**
100 гадоў з дня нараджэння Кавалёва Паўла Нічыпаравіча (1912 – 1995), беларускага пісьменніка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**20 лістапада**
295 гадоў з дня нараджэння Каніскага Георгія (1717 – 1795), украінскага і беларускага пісьменніка, палітычнага, царкоўнага і культурнага дзеяча Беларусі.

**20 лістапада**
295 гадоў з дня нараджэння Каніскага Георгія (1717 – 1795), украінскага і беларускага пісьменніка, палітычнага, царкоўнага і культурнага дзеяча Беларусі.

**20 лістапада**
110 гадоў з дня нараджэння Воінава Аляксандра Пятровіча (1902 – 1987), беларускага архітэктара, заслужанага дзеяча мастацтваў, заслужанага будаўніка Беларусі.

**24 лістапада**
110 гадоў з дня нараджэння Арэхвы Мікалая Сямёнавіча (1902 – 1990), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторыка, заслужанага работніка культуры Беларусі.

**26 лістапада**
95 гадоў з часу стварэння (1917) Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту, фарміраванне Савета народных камісараў.

*95 гадоў з часу стварэння (1917) Абласнога выканаўчага камітэта Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту, фарміраванне Савета народных камісараў*



**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны:** (029) 732-75-93
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

**125 гадоў з дня нараджэння Цішкі Гартнага (Зміцера Хведаравіча Жалуновіча) (1887 – 1937) - пісьменніка, дзяржаўнага і грамадскага дзеяча, гісторыка, публіцыста, акадэміка НАН Беларусі**

